ВАЙЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! – К. Каліноўскі

ISSN 5172



ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!

# ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў

ZVAZAJ – Veterans quarterly, published by Liaison Committee of Byelorussian War Veterans. Canada Post: 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.. M4K 1C2

U.S. Post: Assn of Byelorussian American Veterans, 9 River Rd. Highland Park, N.J. 08904

Год 12 Лістапад, 1986 № 4 (44)

## СЯМНАЦЦАТАЯ СУСТРЭЧА

Сёлета ў днях 30-31 жнівеня й 1-га верасьня ў Кліўлендзе адбылася ўжо сямнаццатая з чаргі Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, арганізаваная Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем і Згуртаваньнем Беларусаў Канады. Першая Сустрэча адбылася каля вадападу Нягара ў 1952 годзе.

Сёлетняя Сустрэча ўшанавала сотыя ўгодкі Статуі Свабоды й 80-я ўгодкі "Нашай Нівы" – зоркі беларускага нацыянальнага адраджэньня. Ім былі прысьвечаныя галоўныя даклады. Апроч таго, на працягу двух дзён адбыліся канфэрэнцыі арганізацыяў моладзі, Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Падсумоўвалася ўжо пройдзенае, зробленае ці асягнутае, рабіліся пляны на будучыню. У нядзелю, з удзелам Першага Ярарха БАПЦ архіяпіскапа Мікалая, сьвятароў, адбылася ў царкве вялікая багаслужба.



*Падняцьце сьцягоў. Здымка* К. Акулы

Адкрыцьцё было раніцай у сыботу 30-га жнівеня а гадз. 9-й. Перад галоўным павілёнам паселішча Полацак сабраліся беларускія вайсковыя вэтэраны, прыбылыя зь Нью Ерку й ваколіцаў, з Канады й мясцовыя. Сьцяжная варта з трыма сьцягамі – беларускім, амэрыканскім і вэтэранскім станула на чале групы вэтэранаў і на каманду "Зважай!" капітан М. Ягаўдзік здаў рапарт старшыні Рады БНР ген. Я. Сажычу. На загад старшыні Рады былі паднятыя сьцягі.

У спартовай залі павілёну адбылося паседжаньне нашых былых вайскоўцаў. Кіраваў ім капітан М. Ягаўдзік – камандзер мясцовага адьдзелу Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Кліўлендзе. На вялікі жаль, з прычыны хваробы, адсутнічаў адзін з нашых галоўных вэтэранаў – камандзер БАВ Усходняга Узьбярэжжа маёр Сяргей Гутырчык. Ягонае прывітаньне й справаздачу, што прысутныя зь цікавосьцю выслухалі, чытаў маёр М. Тулейка.

У абмяркаваньнях арганізацыйных справаў, выдавецтва й прапаганды беларускіх вайсковых традыцыяў выступалі: старшыня БАЗА сп. А. Шукелойць, старшыня Рады БНР др. Я. Сажыч, заступнік старшыні Рады БНР ген. др. Б. Рагуля, рэдактар "Зважай", пісьменьнік К. Акула і іншыя.

Яшчэ раз была выказаная старая думка, каб "Зважай" зрабіць афіцыяльным органам Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў на Чужыне, а не пакідаць яго, як дагэтуль – ворганам Камітэту Сувязі Беларускіх Вэтэранаў, заснаванага на Першай Сусьветнай Сустрэчы Беларускіх Вэтэранаў, што адбылася ў Манчэстары ў 1974 годзе.

*(заканчэньне на 2-й бачыне)*

## КАЛІ ДВА ФАШЫЗМЫ ГІТЛЕРАЎСКА-НАЦЫСТОЎСКІ Й ЧЫРВОНА-МАСКОЎСКІ ПАДАЛІ САБЕ РУКІ...

23-га жніўня сёлета ў Таронце, Мэльбурне, Чыкага, Штакгольме, Лёндане, Парыжы й іншых гарадох вольнага сьвету адбыўся дзень "Чорнае Істужкі". У ім прынялі ўдзел сотні тысяч дэманстрантаў, якія, разам з выступамі палітыкаў вольных дэмакратычных дзяржаваў, прыгадалі ганебны ў гісторыі дзень падпісаньня ў Маскве ўмовы Молатава-Рыбэнтропа 23.8.1939 г., якая дала Гітлеру магчымасьць распачаць Другую сусьветную вайну, а бальшавіком – "асвабадзіць Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну" ды заняць прыбалтыйскія дзяржавы.

Пасьля-ж хаўрусьнік Гітлер, якога Масква падкармлівала й забясьпечвала ўсім у ягонай вайне з Заходняй Эўропай, рушыў на Маскву. На здымку, ніжэй, нямецкія й савецкія афіцэры ўдакладняюць новую мяжу ў акупаванай у 1939 годзе Польшчы.



## СЯМНАЦЦАТАЯ СУСТРЭЧА

Прысутныя выразілі задаваленьне, што "Зважай" выходзіць рэгулярна, салідна рэдагуецца й зьмяшчае цікавыя матар'ялы зь гісторыі Беларусі і яе збройнага змаганьня за незалежнасьць. За добрую падтрымку матар'яламі К. Акула выразіў падзяку нашаму надта працавітаму гісторыку д-ру В. Сянькевічу, за найлепшую матар'яльную падтрымку – адзьдзелу Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью Брансвіку, а асабліва ягонаму нястомнаму камандзеру маёру С. Гутырчыку. Наапошку ўдзельнікі адсьпявалі беларускі нацыянальны гімн ды ўключыліся ў іншыя праграмы 17-й Сустрэчы.

## ФРАНЦІШАК УМЯСТОЎСКІ АДЗІН ЗЬ ПІЯНЕРАЎ БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭНЬНЯ

Біяграфічныя весткі пра Францішка Ўмястоўскага такія-ж няпоўныя і фрагмэнтарныя, як і пра многіх іншых беларускіх адраджэнцаў-нашаніўцаў. У "Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі ягонае прозьвішча згадваецца толькі два разы ў 2-м томе: у зацемцы пра штомесячны літаратурна-грамадзкі часапіс "Беларуская Культура", які выдаваўся ў Вільні ў беларускай мове да верасьня 1927 году й рэдактарам і выдаўцом якога быў Францішак Умястоўскі ды ў артыкуле пра Беларускую Сацыялістычную Грамаду, утвораную ў 1902 годзе. У першым выпадку Ўмястоўскаму робіцца закід, што ён праводзіў палітыку супрацоўніцтва з польскімі буржуазна-памешчыцкімі ўладамі, накіраваную супраць нацыянальна-вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі. У другім гаворыцца пра Францішка Ўмястоўскага, як пра аднаго із стваральнікаў Грамады.

Ад выхаду ў 1970-ым годзе 2-га тому ўнівэрсальнай "Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі" да зьяўленьня ў 1981-ым годзе 5-га тому "Кароткай Энцыкляпэдыі Беларускай ССР", які, як ведама, ёсьць першым і адзіным біяграфічным даведнікам пра людзей, жыцьцё й дзейнасьць якіх зьвязаныя зь Беларусяй, мінула адзінаццаць гадоў. Аднак у стаўленьні афіцыйнай савецкай гістарычнай навукі да Францішка Ўмястоўскага не адбылося, відаць, ніякіх зьменаў. Сьведчаньнем гэтага можа паслужыць той факт, што на яго старонках для Ўмястоўскага наогул не знайшлося месца.

Крыху йнакш выглядае гэтае пытаньне ў працах дасьледнікаў гісторыі беларускага руху і літаратуры. Гэтак, напрыклад, Міхась Біч, у сваім артыкуле "У змаганьні за лепшую долю", надрукаваным з нагоды 60-годзьдзя газэты "Наша Доля" ў №8 "Полымя" за 1966 год, хоць і называе Францішка Ўмястоўскага прадстаўніком кадэцкіх грамадаўцаў і буржуазна-лібэральных тэндэнцыяў у Беларускай Сацыялістычнай Грамадзе, аднак, уводзячы ягонае імя на бачыны гістарычнай літаратуры, гэтым самым робіць першую спробу рэгабілітацыі Ўмястоўскага як адраджэнца-нашаніўца. Міхась Біч ставіць Францішка Ўмястоўскага побач з Цёткай, якая таксама была неафіцыйным рэдактарам "Нашай Долі", адзначаючы, што для іх, як, зрэшты, і для ўсіх грамадаўцаў, лёзунгам і яднаючай плятформай было адраджэньне беларускага народу.

Як ведама, першы нумар "Нашай Долі" адкрываецца вершам Цёткі "Наш палетак" і рэдакцыйным артыкулам Умястоўскага "Да чытачоў", ці, як тады гаварылася, "Да чытацеляў". Абодвы яны заклікаюць беларускі народ да нацыянальнага адраджэньня. Цётка, прытрымліваючыся ведамага дэвізу беларускага нацыянальнага руху: "Занімай, Беларусь маладая мая, свой пачэсны пасад між народамі", робіць гэта заклікам "да жывой, плённай работы на карысьць сваёй радзімы, свайго народу". А Францішак Умястоўскі дапаўняе яе, кажучы, што гэта трэба рабіць праз асьвету, праз кніжку ў роднай мове. "Дайце беларусу такую кніжку, каб ён разумеў, што ў ёй напісана. Толькі кніжка напісаная на мове бацькоў яго патрапіць сноп сьвету закінуць у цяжкое

жыцьцё беларуса, толькі яна патраціць холад і голад выкінуць з мужыцкае хаты, толькі яна пакажэць яму дарогу да лепшае, ясьнейшае долі!"

Ведамая беларуская савецкая пісьменьніца Лідзія Арабей у сваім артыкуле пра Цётку ў рэвалюцыі 1905-1907 гадоў, зьмешчаным п. заг. "Песьні гневу і барацьбы" у №7 часапісу "Полымя" за 1976 год, ідзе яшчэ далей, паказваючы, што сувязі Цёткі з Францішкам Умястоўскім мелі глыбейшае карэньне чым гэта мяркавалася дагэтуль. "Цётка, — піша Лідзія Арабей, — была добра знаёмая з братамі Ўмястоўскімі, часта бывала на Варшаўскім завулку, дзе зьбіраліся сходы, тайныя нарады. Адзін з братоў, Пранук, у 1906 годзе прымаў актыўны ўдзел у заснаваньні і выданьні "Нашай Долі".

"Пранук" — гэта той-жа Францішак Умястоўскі, адзін з пяці сыноў Яна Ўмястоўскага, дом якога знаходзіўся на Варшаўскім завулку, што ў Вільні. У гэтым доме часта адбываліся сходы рэвалюцыянераў, якія друкавалі і распаўсюджвалі розныя адозвы ў беларускай, польскай і расейскай мовах, у якіх заклікалі не страляць у дэманстрантаў, а таксама так званыя "лятучыя лісткі" і праклямацыі зь вершамі Цёткі. За гэтую рэвалюцыйную дзейнасьць у кватэры Ўмястоўскага рабіліся вобыскі, а самі Ўмястоўскія арыштоўваліся царскай паліцыяй".

"Пранук Умястоўскі, — піша ў іншым месцы Лідзія Арабей, — быў добрым прамоўцам і часта разам зь Цёткай выступаў на сходах і мітынгах перад рабочымі Вільні. Калі Цётка ў 1906 годзе жыла ў Вільні нелегальна, Пранук Умястоўскі часам даваў ёй прытулак на тым-жа Варшаўскім завулку".

І гэта зусім нармальна. Умястоўскі вельмі добра ведаў сям'ю Пашкевічаў і з усімі Пашкевічамі сябраваў. Асабліва блізкім было сяброўства Францішка Ўмястоўскага з братам Цёткі Вацлавам Пашкевічам. "Вацлаў Пашкевіч, — піша ў сваіх успамінах пра Францішка Ўмястоўскага Калодка (гл. "Зважай" № 19), быў уласьнікам невялікага маёнтку Стары Двор каля Васілішак. Перад Другой сусьветнай вайной ягоная дачка (г. зн. пляменьніца Цёткі) Гэля вучылася ў віленскай польскай гімназіі. Вацлаў Пашкевіч некалькі разоў у год брычкай прыяжджаў у Вільню, прывозячы дачцы розныя прысмакі. Ён заўсёды затрымліваўся ў Умястоўскага, які супольна зь дзьвюма швагеркамі меў вялізарны дом і некалькі гактараў зямлі насупраць праваслаўнага могільніка на вуліцы Бэліны".

З успамінаў Калодкі, які пазнаёміўся з Францішкам Умястоўскім уканцы 1926 году, можна даведацца больш дэталяў біяграфіі Ўмястоўскага. Гэтак, прыкладам, апрача выданьня літаратурна-грамадзкага часапісу "Беларуская Культура", Францішак Умястоўскі выдаваў і рэдагаваў таксама газэту "Беларускі Дзень", пра што "Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя" наагул ня згадвае. Пасьля закрыцьця газэты ён працаваў інспэктарам працы ў віленскай акрузе. "Гэта быў час, — кажа аўтар успамінаў, — калі Францішак Умястоўскі ад беларускага жыцьця адыйшоў, хоць ім заўсёды цікавіўся".

Умястоўскі знаў асабіста й сябраваў шмат зь кім із тагачаснай польскай урадавай эліты, а ягоны родны брат Станіслаў быў дырэктарам фабрыкі ўзбраеньня ў Скаржыску й меў шырокія сувязі. Усё гэта дапамагло пазьней Францішку Ўмястоўскаму ўратавацца ад пагібелі ў савецкіх канцлягерах выдатнага беларускага драматурга Францішка Аляхновіча, які ў верасьні 1933 году быў выменены на аўтара "Беларускай Граматыкі", выдатнага беларускага вучонага-філёляга прафэсара Браніслава Тарашкевіча.

"І Францішак Аляхновіч, і Францішак Умястоўскі — адзначае аўтар успамінаў, — загінулі ад бальшавіцкіх куляў. 3-га сакавіка 1944 году Аляхновіча застрэліў бальшавіцкі агент у Вільні. Францішак Умястоўскі, як афіцэр рэзэрвы польскай арміі, быў у 1939 годзе пакліканы на актыўную службу, пасьля акупацыі Заходняй Беларусі Чырвонай Арміяй 18-га верасьня, узяты "ў палон", інтэрнаваны ў Казельску, а ў 1940 годзе быў зьліквідаваны энкавэдыстамі ў Катыні разам з тысячамі іншых афіцэраў."

І запраўды, імя Францішка Ўмястоўскага фігуруе ў Катынскім сьпіску афіцэраў Польскіх Узброеных Сілаў, што загінулі ў Савецкім Саюзе перад пачаткам савецка-нямецкае вайны ў чырвені 1941 году. Сьпісак гэты быў выдадзены ў Лёндане ў 1977 годзе Адамам Машынскім, адным зь нямногіх афіцэраў, якому ўдалося ўратавацца ад сталінскае бойні.

Аўтар успамінаў падае яшчэ адзін цікавы факт зь біяграфіі Францішка Ўмястоўскага і які зьвязаны зь яго сынам Уладзімерам, што некалькі год перад вайною працаваў у польскім консуляце ў Менску. "У 1938 годзе — піша Калодка, — на банкеце ў консуляце Ўладзімер Умястоўскі, які добра ведаў беларускую мову, меў нагоду сядзець пры стале побач зь Янкам Купалам, зь якім Францішак Умястоўскі калісьці сябраваў, працуючы ў "Нашай Долі" й "Нашай Ніве". Купала вельмі усьцешыўся, што пазнаў асабіста сына свайго прыяцеля Пранука Ўмястоўскага".

І дзіва няма, бо як для Купалы, так і для Ўмястоўскага, Цёткі, для ўсіх грамадаўцаў-нашаніўцаў, існаваў, як сказалі, адзін і тойсамы лёзунг, іх аб'ядноўвала адна й тая самая плятформа — адраджэньне беларускага народу.

*Язэп Барэйка*

## КАБ СПЫНІЦЬ РУСЫФІКАЦЫЮ

Няспынны працэс русыфікацыі нацыянальнага беларускага жыцьця ў паняволенай Маскоўшчынай Беларусі ня толькі ня спыняецца, а пашыраецца. Беларускія савецкія літаратары, настаўнікі, культурныя дзеячы апошнім часам намагаюцца паставіць праблему "звужэньня сфэры ўжываньня роднай мовы ў рэспубліцы, у масах насельніцтва і асабліва — у школе", як сказаў на восьмым зьезьдзе пісьменьнікаў БССР сакратар управы Н. Гілевіч, — на шырокі грамадзкі форум, прыняць канкрэтныя меры для абароны беларускай мовы, а ў школах рэспублікі спрычыніцца да пашырэньня ейнага выкладаньня.

У менскай тыднёвай газэце "Літаратура і мастацтва" за 19.9.1986 г., пад рубрыкай "Факт з каментарыем" зьмешчаны ліст у рэдакцыю п. заг. "Прашу вызваліць" віцебскага настаўніка Ф.Сіўко, што выкладаў беларускую беларускую мову й літаратуру ў школах Віцебску. У заўвазе рэдакцыі сказана, што "рэдакцыя палічыла патрэбным дасьледаваць праблему, узьнятую Ф. Сіўко,

*працяг на 4-й бачыне*

*************************************************

## КАБ СПЫНІЦЬ РУСЫФІКАЦЫЮ

больш грунтоўна і друкуе пісьмо з каментарыем пісьменьніка, супрацоўніка газэты Кастуся Тарасава". І вось гэтае "дасьледаваньне" разраслося аж на дзьве бачыны ЛіМу.

Дарэчы, ці гэты Кастусь Тарасаў ня будзе тойсамы "Тарасов К.И.", каторы напісаў кнігу "Память о легендах: Белорусской старины голоса и лица", за якую накінуўся на яго "А.Залесский, доктор исторических наук, профессор", у № 5 "Коммунист Белоруссии" за 1986 г.? Пра яго чытай у артыкуле "Калі легэнды зь мітамі разыходзяцца" у гэтым-жа № "Зважай".

Чытач спытае: а што паслужыла штуршком для беларускіх пісьменьнікаў заняцца праблемай сфэры ўжываньня беларускай мовы ў рэспубліцы, асабліва ў школе?

Штуршок прыйшоў із самай вярхушкі партыйнай камуністычнай буржуазіі, ад 27-га зьезду КПСС у Маскве. У № 39 "ЛіМу" за 26.9.1986 г., у артыкуле "Перабудове – канкрэтныя справы", чытаем: "27-мы зьезд КПСС назначыў курс на паскарэньне прагрэсу і перабудову жыцьця ў нашай краіне. Галоўны рычаг гэтага курсу – барацьба за дэмакратызацыю, наватарскія ідэі, сацыяльную справядлівасьць і галоснасьць".

Добра, на нашу думку, што, як выглядае, із самага вяршочку гэную "галоснасьць" дазваляюць. Ужо каму, як каму, а паняволеным Беларусам яна як паветра, як вада патрэбная. Дагэтуль-жа пра балячкі ў краіне, дзе ўсе сацыяльныя праблемы вырашылі, адно на вуха, дый то давераным людзям шапнуць можна было. Пад уладай маскоўскіх акупантаў разбуралі старое й будавалі новае звыш шасьці дзесяцігодзьдзяў, а цяпер наступае "перабудова" ў "духу аднаўленьня". Яшчэ няведама чым дыхне той "дух" пасьлязаўтра ці за гады тры...

Як-жа акупантамі выкарэньваецца зь беларускіх (пераважна гарадзкіх) школаў беларуская мова? Паслухаем віцебскага настаўніка: "давялося (яму, Сіўко) пэўны час выкладаць мову й літаратуру ў адной з агульнаадукацыйных школ Віцебска. Па завядзёнках, тут а пачатку навучальнага года кожны настаўнік атрымлівае паперу са сьпісам вучняў сваіх класаў, якія загадам дырэктара вызвалены ад вывучэньня праблемы. Іх, гэтых вызваленых, бывае так шмат, што часам міжволі паўстае пытаньне: А каго вучыць?

Згодна зь неафіцыйным правілам, вызваляюцца ад вывучэньня мовы вучні – дзеці ваеннаслужачых, па стане здароўя, а таксама не Беларусы – прадстаўнікі іншых народаў СССР. Але як тады вытлумачыць такі факт, калі з сарака двух здаровых вучняў чацьвертага класа, зь якіх, згодна са зьвесткамі на адпаведнай старонцы журналу, 30 Беларусаў і 12 рускіх, беларускую мову вывучаюць 8... рускіх і толькі 3 беларусы? Кур'ёз? На жаль, не адзіны. Чаго варта, напрыклад, практыка вызваленьня ўвогуле бяз прыведзеных вышэй падстаў, проста па заяве, часам яўна лёгкадумнай таго альбо іншага бацькі – бо яны занадта настойлівыя, адміністрацыя школы афіцыйнымі паўнамоцтвамі, здольнымі ўтрымаць гэту бессаромную плынь, не надзеленая?

Што гэта? Недагляд? Не, усё па інструкцыі. У дваццатым артыкуле чацьвертага разьдзелу "Асноў заканадаўства Саюза ССР і саюзных рэспублік аб народнай асьвеце"... чытаем: "Апроч мовы, на якой выкладаюцца прадметы, вучні па жаданьні могуць вывучаць мову іншага народу СССР." У Віцебску каля 40 школ і ўсе яны з рускай мовай навучаньня. А гэта значыць, што з сорак тысяч школьнікаў гораду па жаданьні могуць... не вывучаць роднай мовы абсалютна ўсе. Выдаткі нізкай нацыянальнай самасьвядомасьці? Сіла інерцыі? Ці толькі?

Як правіла, часьцей за ўсё дамагаюцца вызваленьня ад урокаў мовы прадстаўнікі інтэлігенцыі і служачыя. Пераважная большасьць вывучаючых – дзеці рабочых."

За такое катастрафальнае палажэньне з вывучаньнем беларускае мовы ў Віцебску Сіўко звальвае віну на бацькоў і заключае: "Выйсьце адно: спыніць паводку лёгкадумных адносін да першаасновы нацыянальнай культуры – роднага слова – сілаю закона".

У суседнім артыкуле "Закон і вакол закона", Кастусь Тарасаў, камэнтуючы ліст віцебскага настаўніка і, спасылаючыся на існуючыя законы, якія быццам дазваляюць вучыць насамперш родную мову, цьвердзіць наступнае: "Што да Беларусі, дык тут, па меншай меры, у гарадах і гарадзкіх пасёлках, ніякага выбару, па сутнасьці, ня існуе – тут усе школы вядуць навучаньне на рускай мове. Інакш кажучы, вырашаць моўную дылему бацькам ня трэба... няма беларускамоўных школ...

У Менску больш за сто тысяч вучняў. Зь іх больш 90 хлопчыкаў і дзяўчынак навучаюцца на роднай мове, астатнія набываюць веды па-руску, тысячы-ж наагул ад вывучэньня беларускай мовы вызвалены...

Самае сумнае, што вызваляюць сваіх дзяцей ад беларускай мовы і настаўнікі школы, і выкладчыкі вышэйшых навучальных установаў. Толькі ў Фрунзенскім раёне Менску "вызвалілі" сваіх сыноў і дачок ад прадмету "беларуская мова" каля 500 настаўнікаў. А ў сукупнасьці па горадзе колькасьць такіх "вызваліцеляў" ужо перавысіла 1 000. Сярод іх – многія выкладчыкі беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту і інстытута культуры і, што ўжо зусім нечакана, – гуманітарыі, людзі, якія абараняюць дысертацыі, пішуць працы пра беларускую культуру, асьвету, гісторыю. І ўжо іначай, як нонсэнс нельга ўспрыняць той факт, што ў кагорце "вызваліцеляў" апынуліся работнікі Міністэрства асьветы, інспэктары гарана, рана, мэтадысты беларускай мовы. Апошні факт тым больш насьцярожвае, што гэтыя людзі будуць, бадай, першымі абаронцамі "вызваленьня", можа, навет, і лепшымі прапагандыстамі яго і будуць спасылацца, каб захаваць добрую міну, на агульны настрой шырокіх бацькоўскіх колаў."

І далей, многазначна, Тарасаў падчырківае: "Але-ж нехта ім дазваляе такі крок, некаму-ж такія настроі імпануюць, хоць і відавочна, што вызваленьне настаўнікам свайго дзіцяці ад беларускай мовы – гэта ўжо адкрыты выклік асьвеце, яўная пагарда да сваей мовы і культуры".

Тарасаў ня можа сказаць, што маскоўскаму акупанту ня толькі напляваць на беларускую мову й культуру, але, наадварот, "вызваленьне" працуе на ягоную карысьць, тым больш, што яно пашырана між "абывацельскай" (пабеларуску – мяшчанскай) інтэлігенцыі. І мала таго, што БССР – і сябра АН і ЮНЭСКО (як падчырківае Тарасаў), дый што кажны чацьвёрты Беларус загінуў за вызваленьне ад гітлераўскага фашызму (ды памагаў чырвонаму маскоўскаму фашызму), – усяго таго мала. Важна, хто ў Менску гаспадар. А таму духовыя цівуны

й мяшчане, што пазалазілі і ў дзяржаўны ўнівэрсытэт і ў міністэрства асьветы, і ў школьную сыстэму, — усе яныадзін аднаму будуць памагаць, каб трымаўся й мацнеў іх цівунскі, што служыць маскалём, род...

"Закону аб "вызваленьні" ад мовы рэспублікі, дзе жывеш, — прадаўжае Кастусь Тарасаў, — няма. Ён самадзейна падмяняецца адвольнымі інтэрпрэтацыямі тэксту Статута. Але навет і школьны Статут не дазваляе бацькам і паблажлівым дырэктарам школ, загадчыкам рана адвольна ламаць навучальныя пляны. Уявіце, што адзінаццаць тысяч бацькоў прынесьлі ў школу заявы аб вызваленьні ад фізікі ці англійскай мовы. Ды іх і слухаць-бы ніхто ня стаў, паколькі сярэдняя адукацыя ў нашай краіне абавязковая: хочаш ня хочаш — атрымай. З гэтай прычыны, напрыклад, страта па віне настаўніка дзьвюх гадзін рускай мовы ці астраноміі — надзвычайная падзея па Міністэрстве асьветы. Чаму-ж права на роўнасьць і абавязкавасьць пазбаўлена толькі беларуская мова?"

На першым паседжаньні,пасьля апошняга зьезду,прэзідыюма управы Саюза Пісьменьнікаў БССР, "у напружанай творчай атмасфэры перабудовы", 12-га верасьня сёлета абмяркоўвалі, што і як перабудоўваць. На дзявятым зьезьдзе Саюза Пісьменьнікаў Беларусі, як казаў сакратар управы Ніл Гілевіч, "вялікая ўвага надавалася пытаньням нацыянальнай культуры і мовы, а таксама праблеме беларускай школы. Адкрыта гаварылася пра нэгатыўнае. Наша задача — ня толькі прадоўжыць размову, але і ў рабоце выявіць канкрэтны працяг: ісьці далей і сьмялей, праводзіць у жыцьцё прынцыпы дэмакратызму і галоснасьці, праяўляць ініцыятыву".

І далей: "Пагаворым і аб грамадзянскай актыўнасьці пісьменьніка. Паглядзіце, чаго дабіліся рускія пісьменьнікі. Выратаваньне Байкала, увага да Нечарназем'я, да непэрспэктыўных вёсак і г. д. — усё гэта заслуга найперш пісьменьнікаў. А мы? Бываюць моманты, калі практычна дзейнічаць важней, чым напісаць апавяданьне ці верш. Сёньня, скажам, нармалізаваць становішча з выкладаньнем роднай мовы і літаратуры ў школе важней, чым напісаць мастацкі твор. Дзесяцігодзьдзямі мы гэтую зьяву замоўчвалі, не гаварылі пра яе, а нядобрая справа рабілася і зайшла так далёка, што сягоньня трэба нешта рабіць са школай. Трэба стварыць грамадзкую думку. А ці ствараем мы яе? Напрыклад па лініі Бюро прапаганды?"

Пра праблемы разьвіцьця беларускай нацыянальнай культуры гаварыў А. Мальдзіс. "Мы часта зводзім нашы праблемы да прыватнага, — сказаў ён, — тыражоў беларускіх выданьняў, дзіцячых садоў, — а трэба глядзець глыбей і шырэй, трэба гаварыць пра стаўленьне да нашай нацыянальнай культуры ўвогуле".

"Двойчы ў ЛіМе, — працягваў Мальдзіс, — чытачы выступалі ў абарону сядзібы Багушэвіча ў Кушлянах, але ніякага зруху ў гэтым пытаньні не адбылося. Гіне дом Бядулі-Багдановіча ў Менску".

"Разумная прапанова разьвіваць публіцыстыку, каб яна дасягнула належнага ўзроўню, — гаварыў Б. Сачанка, — *каб гаварыла ва ўнісон з рускай* (падчыркнута мной — К. А.). Але хіба-ж нашы пісьменьнікі ня выступаюць з вострымі публіцыстычнымі творамі! Мы выступаем, але як быць, калі вельмі многія людзі ў рэспубліцы ня чытаюць беларускіх кніг і часопісаў?"

Вось дзе, як Немец сказаў-бы, сабака закапаны. Аказваецца, што навала расейшчыны залівае паняволеную Беларусь у хворме кніг і газэтаў, і ўсяго ўсенькага. "Чыя віна, — пытаецца В. Адамчык, — што ў многія раёны Беларусі (Пінск, Жабінка, Віцебск і Віцебскі раён) беларускі друк амаль не даходзіць?"

"Мне здаецца, — раіў А. Петрашкевіч, — што ў гэтым пытаньні нам трэба пачынаць з таго, што прапаноўвае ў адным са сваіх артыкулаў гісторык Л. Лыч: увесьці выкладаньне беларускай мовы з першага класа, пазбавіць бацькоў права вырашаць пытаньне вывучэньня беларускай мовы ў школе, увесьці выкладаньне гуманітарных прадметаў у школах, тэхнікумах і ВНУ на беларускай мове".

"Калі ня будзе падтрымкі і зацікаўленасьці народу, — заўважыў У. Калесьнік, — ніякі закон не дапаможа".

Руйнаваць "перадавая сацыялістычная дзяржава ў сьвеце"ўмее. Паслухайце таго-ж Петрашкевіча: "Мне давялося пазнаёміцца з работай Салігорскага калійнага камбінату. Салігорск — гэта наш Байкал, за выратаваньне якога мы павінны змагацца. Шэсьць тысяч тон салянога пылу штогод разьвейваецца па навакольлі. Пасохлі сады, загублена вялікая колькасьць добрай зямлі. Нельга дапусьціць трагедыі, якая можа там адбыцца".

"Нам прыйшоў ліст, дзе расказваецца, як у адной вёсцы Брэсцкай вобласьці на вачах усей грамадзкасьці разабралі царкву 16-17 стагодзьдзяў і збудавалі зь яе... хляўчук..."

"Дух перамен, якія адбываюцца зараз у краіне, — канчае карэспандэнт ЛіМу, — не абмінуў пісьменьнікаў рэспублікі".

Якіх перамен? Паслухаем яшчэ раз Б. Сачанку, вёска якога й наваколье зруйнавала атамная катастрофа Чарнобыля:

"Нядаўна я быў на Палесьсі. Вялікая бяда напаткала мае родныя мясьціны. А вось у адной газэце чытаю пра сваю вёску: Прыгажэе Чырвоны Бор". Каму пажадаеш такой прыгажосьці?! Чытаеш такое і робіцца сорамна".

І Сачанка, і іншыя пісьменьнікі й паняволеныя Маскоўшчынай іншыя Беларусы добра ведаюць каму такой "прыгажосьці" трэба пажадаць. Улада вялікіх варвараў здольная толькі нішчыць нацыянальныя культуры й мовы, а апошнім часам, як бачым, і ўсе жывое на зямлі. Яна абапіраецца толькі на вялікую хлусьню. Адно калі надыйдзе дзень і адчыняцца паняволеным людзям вочы, варвары будуць з твару зямлі зьмеценыя.

***К. Акула***

***************************************************

*НАШЫМ ЧЫТАЧОМ, СУРОДЗІЧАМ*

НА ВЫГНАНЬНІ Й НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

*жадаем*

ВЯСЕЛЫХ КАЛЯДАЎ

ДОБРАГА ЗДАРОЎЯ

Й ПАМЫСНАГА НОВАГА ГОДУ!

## АКУПАНТ ЗЬНЕВАЖАЕ ПАМЯЦЬ НАЙСЛАЎНЕЙШАГА СЫНА БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ

У свой час мы зьвярнулі ўвагу на помнік Скарыну ў Полацку й напіс на ім расейскай мовай: Франциск Георгий Скорина (гл. "Напіс на помніку", "Зважай", № 4(20), 1980 г.)

Ніжэй зьмяшчаем ліст аднаго турысты, які шукаў сълядоў памяці чалавека, што блізу пяць стагодзьдзяў назад узьняў нашу мову на "сусьветную вышыню" й прынёс свайму "граду Полацку" й бацькаўшчыне вялікую славу. Чытайце самі адбітку зь ліста, зьмешчанага ў менскай газэце "Літаратура і Мастацтва" за 29-га жніверня 1986 году:

З ПОШТЫ «ЛіМА»

### «Загадкі» на вуліцы Скарыны

**Сёлета ў чэрвені, пад час адпачынку, наведаў Віцебшчыну. Даўно марыў пабываць і ў старажытным Полацку. І вось я ў гэтым горадзе, дзе каля пяці стагоддзяў назад на адной з вуліц стаяў дом бацькоў Францыска Скарыны. Тут, як вядома, ён нарадзіўся, тут гучала мова, якую пазней ён сваімі кніжкамі ўзняў на сусветную вышыню.**

**Так думалася, калі блукаў па мясцінах, дзе захаваліся старыя будынкі — былых Богаяўленскага і Францысканскага кляштараў, езуіцкага калегіума, старажытнага Сафійскага сабора... У большасці сваёй яны захаваліся на вуліцы Леніна і ў раёне Верхняга замка. Увесь жа горад абнавіўся новымі пяці- і нават дзевяціпавярховымі дамамі ад плошчы Леніна, у раёне паміж правым берагам Дзвіны і чыгункай.**

**Прайшоўшы адну, другую вуліцу гэтага раёна, спыніўся каля дома з таблічкай на сцяне, каб даведацца, на якой жа вуліцы знаходжуся. Стаяў доўга і ніяк не мог зразумець — «Г. Скорины» ці «Г. Скарины» названа гэтая вуліца. Тым больш, што ў Полацку ўсё ж павінна быць вуліца імя Францыска Скарыны — даўно ўжо прынята пісаць так імя першадрукара.**

**Заўважыў і дошку з тэкстам. Але з ім разабрацца было яшчэ цяжэй. Чамусьці з'явіўся ўжо «Френиск (Георгий) Скорина»?!**

**Узнікае пытанне: хто тыя «грамацеі», якія публічна дэманструюць сваю непісьменнасць? Ці не час выправіць гэтыя памылкі і падаць тэкст на дошцы, у назве вуліцы правільна і на беларускай мове, на якой гаварыў і друкаваў свае кнігі Францыск Скарына!**

**Вячка ЦЕЛЕШ.**

**г. Рыга.**

## РОДЗІЧ СКАРЫНЫ Ў МАНТРЭАЛІ?

Часапіс "Беларусь", орган Саюзу Пісьменьнікаў БССР, № 7, 1986 год, прысьвяціўшы цэлы нумар "нашай спадчыне", зьмясьціў і артыкул п. заг. "Францыск Скарына і яго час", аўтарства Алеся Петрашкевіча, намесьніка галоўнага рэдактара Беларускай Савецкай Энцыклапэдыі.

Жадаем зьвярнуць увагу нашых чытачоў на апошні абзац гэтага цікавага артыкулу. Перадаём яго тут адбіткай з часапісу "Беларусь" (бач. 22):

**якія б маглі папрацаваць з фондамі 16 стагоддзя. Дарэчы, ёсць і латыністы, і знаўцы іншых моў. Няма ахвоты. Ёсць інертнасць, нягледзячы на тое, што 500-гадовы юбілей Францыска Скарыны па рашэнню ЮНЕСКА будзе адзначацца ва ўсіх цывілізаваных краінах.**

**Дарэчы, калі гэтыя радкі былі напісаны, мы сустрэліся з Адамам Мальдзісам на адкрыцці ў БДУ імя У. І. Леніна выстаўкі графікі, прысвечанай жыццю і дзейнасці Францыска Скарыны. Выстаўка аказалася надзвычай цікавай. А тое, што паведаміў мне Адам Іосіфавіч Мальдзіс, сенсацыйным. Ні многа ні мала ён перадаў для БелСЭ польскі часопіс, які ўзяў інтэрв'ю ў пра... пра... пра... (не ведаю ў якой ступені) праўнука Францыска Скарыны — Станіслава Скарыны — прафесара, доктара медыцыны і біялогіі, вядомага хірурга, дырэктара Навуковага інстытута гастралогіі... у Манрэалі. Продкі Станіслава Скарыны таксама мелі справу з навукамі лекарскімі. Вось так! Значыцца, жывуць нашчадкі вялікага доктара з слаўнага горада Полацка! Значыцца, ёсць радаслоўная, ёсць звесткі, якіх мы не ведаем. Ёсць надзея, што мы іх будзем мець! Вось чаму я прашу рэдакцыю часопіса «Беларусь» дадаць гэтыя радкі да майго артыкула.**

**Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ,**
**намеснік галоўнага рэдактара БелСЭ**

Шкада, што неназваны польскі часапіс, які ўзяў інтэрвію ад Станіслава Скарыны, які быццам ёсьць родзічам слаўнага Францішка Скарыны. Спадзяемся, што гэта загадкавае адкрыцьцё скора выясьніцца...

## ТРУХЛЕЕ Й РАЗВАЛЬВАЕЦЦА ХАТА БАЦЬКІ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭНЬНЯ

Менскі месячны часапіс "Беларусь", № 7, за сёлетні ліпень, апавяшчае: – "Наша Спадчына – тэма гэтага нумару".

Пра яе, гэту спадчыну, аб якой так турбаваўся наш нацыянальны геній Янка Купала, грэх ня рупіца цяпер, падчас удушлівай для нацыянальнай беларускай культуры русыфікацыі і разбуральнай, скіраванай на ваенную прадукцыю, гаспадаркі акупацыйнага каляніяльнага антынароднага маскоўскага рэжыму.

Але-ж Беларусы намагаюцца зьберагчы сваю нацыянальную спадчыну, бо мяркуюць, што безь яе няма нацыянальна-культурнае будучыні.

"Каб адказаць на пытаньне, што мы пакінем-перададзём наступнікам нашым, трэба папершае, добра ведаць якая спадчына дасталася нам зь мінулага, зь вякоў, ад продкаў...", кажа ведамы паэт-лаўрэат Ніл Гілевіч.

Ага, вось залатыя словы. Гэтта-ж далёка й па прыклады хадзіць ня трэба бо вунь, зусім пад бокам, стаіць ці не адзін з найбольш цэнных і загрожаных абыякавасьцю й варожасьцю да нацыянальнай культуры акупацыйных уладаў – хата вялікага сына беларускага народу, самога бацькі беларускага нацыянальнага адраджэньня Францішка Багушэвіча.

У гэным-жа нумары "Беларусі", пад загалоўкам "Абараніць і захаваць" (глядзі ніжэй) пра Багушэвічаў дом турбуецца заўсёды працавіты й руплівы Генадзь Каханоўскі...

**Ці не занадта доўга зацягнулася валакіта вакол адзінай літаратурнай сядзібы XIX стагоддзя ў Кушлянах? Неўзабаве — 150-годдзе з дня нараджэння Францішка Багушэвіча. Ужо праводзяцца тут дні паэзіі, але гэта вельмі самаўтужна. І тут зусім нельга зразумець пазіцыі Гродзенскага абласнога ўпраўлення культуры, а заадно і абласнога музея. Складваецца такое ўражанне, што нехта спецыяльна адцягвае час, каб зафіксаваць поўнае разбурэнне Багушэвічавай хаты і на тым кропку паставіць. Стары вартаўнік сядзібы Міхаіл Ляпеха абівае парогі начальства, а зруху ніякага няма. Дык як жа і дзе будзе адзначана памятная літаратурная дата ў 1990 годзе? Застаецца толькі чатыры гады...**

І колькі-ж часу яшчэ будзе абіваць парогі чужой каляніяльнай бальшавіцкай адміністрацыі той стары вартаўнік Міхаіл Ляпеха, пакуль Багушэвічава хата, якую ён даўным-даўно вартуе, зусім струхлее й разваліцца?

## КАЛІ МІТ НЯ СУПАДАЕ ЗЬ ЛЯГЭНДАЙ...

"Коммунист Белоруссии", №5, 1986 г., зьмясьціў "рэцэнзію" – фактычна ядавіты напад на К.І.Тарасава за яго кнігу ("Полымя", 1984 г.) "Памяць пра лягэнды: Беларускай старыны галасы й твары".

Рэцэнзент Залескі кажа, што "кніга доўга не залежалася... выклікала вялікае зацікаўленьне масавага чытача і навукоўцаў". Відаць, што напісаная ў расейскай мове.

Залескі адразу нападае на А.Грыцкевіча, што прыхільна адклікнуўся пра яе ў "ЛіМе" і Карава, што пахваліў яе ў расейскамоўным "Немане". Кніга Тарасава – дзесяць нарысаў зь гісторыі Беларусі ад далёкай мінуўшчыны да паловы 19-га ст.

Некалі расейскія гісторыкі стварылі міт, што старажытны Кіеў – калыска "древнерусской народности", –дзяржава што была вытокам трох "народнасьцяў", расейскай, украінскай і беларускай. Пасьля Беларусы трапілі пад панаваньне "літоўскіх феадалаў". Паводля таго міту, беларуская "народнасьць" вытварылася аж у 14-16 ст. і вечна імкнулася да зьяднаньня з "роднай матушкай". Гэны міт перасяліўся й нядрэнна яму жывецца – пры падтрымцы "гісторыкаў" з "роднай партыі" у цяперашняй афіцыяльнай "гісторыі БССР".

"Адным із галоўных недахопаў кнігі, – навучае нас Залескі, – ёсьць фактычнае запярэчаньне адзінства беларускага й расейскага народаў"...

Партыйны гісторык нападае на Тарасава, што той паўтарае амаль усе тэорыі беларускіх нацыянальных і аб'ектыўных гісторыкаў. "Цяпер гэтыя зады ўсякага роду хвальшаў гісторыі ўзяўся перасьпеўваць К.І.Тарасаў... на бачынах сваей кнігі вельмі абшырна і зь вялікай настойлівасьцяй".

"Ведама, што беларускія нацыяналісты ўсіх колераў і адценяў, спрачаючыся пра правамернасьць цяперашніх дзяржаўных межаў БССР, цьвердзяць, быццам этнічнае расьсяленьне Беларусаў выходзіць далёка за яе межы. Ня ўтрымаўся ад такой "прынады" й Тарасаў. Аб'явіўшы непасрэднымі продкамі беларускай народнасьці плямёны Крывічоў, Дрыгавічоў і Радзімічаў, ён тым самым ужо вызначыў "выхад" Беларусаў за іхныя сяньняшнія дзяржаўныя межы".

І яшчэ некалькі грахоў Тарасава: "змаганьне за ўзьяднаньне з Расеяй" ня было апраўдана... Расея тады была вельмі адсталая. Там панавалі дэспатызм і лютасьць". Тарасаў навет "ідэалізуе Берасьцейскую вунію", а польскага караля бачыць як абаронцу Літвы (Беларусі) ад "маскоўскіх захопнікаў".

Відаць, што Тарасаву нядрэнна ведамыя запраўдныя падзеі гісторыі Беларусі, якая была сваей незалежнай дзяржавай перадусім у хворме Полацкага Княства куды раней Маскоўшчыны. Такія факты, як ведама, пярэчаць кардынальнаму маскоўскаму імпэрыяльнаму міту пра еднасьць Беларусаў, Украінцаў і Расейцаў.

Мы тут, зь недахопу месца, не паўтараем усіх "грахоў" Тарасава, згодна партыйнага бальшавіцкага крытыка. Апошні нападае й на Мальдзіса, што напісаў да кнігі "восторженную" прадмову; нападае й на д-ра гіст. навук Капыскага, каторы – вось гора! Маркс, пажамы! – быў сааўтарам разьдзелаў "гісторыі БССР" дзе выступае міт пра "древнерусскую народность" Кіева і "адзінства трох братніх" ды гэтак далей...

Не забыўся Залескі й прыгразіць усім гэтым Мальдзісам, Тарасавым і Капыскім ды згадаць "партийную ответственность".

Некалі ведамы журналіст сказаў, што калі-б цэлы сьвет заліць асфальтам, дык недзе зьявіцца трэшчына, праз каторую прарасьце сьцяблінка зялёнай травы. Гэтак і з праўдай. Яе ня зглумяць расейска-бальшавіцкія крывадушна-хвальшывыя вялікадзяржаўныя міты. Не паможа гэтта і прыкрытая Марксавай барадой "ленінская мэтадалёгія".

*К. Акула*

************************************************

## АФГАНІСТАНСКІЯ ЗМАГАРЫ ЗА СВАБОДУ АТРЫМАЛІ СУПРАЦЬПАВЕТРАНЫЯ РАКЕТЫ.

Як падала газэта "Сандэй Таймс" 2-га лістапада зь Лёндану, афганістанскія *мушахэдзіны*, што ўжо шэсьць гадоў змагаюцца супраць маскоўска-бальшавіцкай навалы, нядаўна атрымалі ведамыя амэрыканскія ракеты Стынгэр. Апошні месяц зьбілі тры бальшавіцкія верталёты і адзін джэт-зьнішчальнік. Трэніроўка ўжываньня Стынгэраў праходзіць у абозе каля пакістанскага гораду Ісламабаду.

************************************************



*Здымка Алега Дубягі*

## АЙЦЕЦ А. НАДСАН МІЖ ВЭТЭРАНАЎ

Гэта гістарычнае здарэньне адбылося сёлета 14-га верасьня, калі каталіцкі й праваслаўны сьвятары аддалі пашану Беларускім Гэроям, бязь ніякіх перашкодаў, але ў запраўднай сардэчнай прыязьні, як Беларусы. Гэта доказ нашай беларускай дасьпеласьці. Палявая служба адбылася ў беларускай мове. Хорам кіраваў маёр Міхась Тулейка.

Таго-ж дня ў залі Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру пры 9 Рывэр Роўд у Гайленд Парку ў гонар айца Аляксандра наладзілі банкет, які адкрыў маёр Сяргей Гутырчык, камандзер ЗБАВ Усходняга Ўзьбярэжжа, прывітаўшы госьця з Англіі й прысутных. З прамовамі выступалі: старшыня БАЗА мгр. А. Шукелойць, што ахарактарызаваў становішча а. А. Надсана ў рэлігійным напрамку, а палк. В. Русак прыпомніў здарэньне, як а. др. Мікола Сьцяпанаў і а. др. Міхась Маскалік спаткаліся ў БАП Царкве ў Остэргофэне, у Баварыі ды ў прысутнасьці вернікаў абняліся й пабрацку пацалаваліся. Першы праваслаўны, а другі – каталік. Абое – Беларусы. Русак гаварыў, што гэта гістарычнае здарэньне яшчэ раз пацьвердзілася сяньня пры помніку Беларускім Гэроям.

Выступалі з прамовамі: інж. В. Русак, др. Вітаўт Кіпель, П. Кажура й а. А. Яноўскі. У часе банкету Пётра Нядзьведзкі на акардыёне выканаў некалькі беларускіх вайсковых песень, за што яго ўзнагародзілі бурнымі воплескамі. Наапошку прамаўляў а. А. Надсан, што падсумаваў усе прамовы й сваё становішча на рэлігійнай ніве. Ён шчыра дзякаваў за наладжаны ў ягоны гонар банкет.

За падрыхтаваньне смачных стравaў і выдатную абслугу вялікая падзяка належыцца нашым руплівым жанчынам: Старшыні Жаночай Сэкцыі Тамары Януш, сяброўкам Гэлі Каранеўскай і Літвіне Гутырчык.

С. Г.

## ФОНД "ЗВАЖАЙ"

Ахвяры, сабраныя на 17-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў Кліўлендзе й пасьля.

*У амэрыканскай валюце:*

М. Грэбень – 20.00, М. Ягаўдзік – 20.00, А. Койка – 20.00, А. Субота – 30.00, М. Наўмовіч – 20.00, П. Бырысік – 10.00, М. Тулейка – 10.00, В. Кажан – 15.00, Вайцяхоўскі – 20.00, К. Калоша – 20.00, А. Міцкевіч – 20.00

У канадыйскай валюце:

К. Акула – 20.00, Б. Рагуля – 30.00, М. Шуст – 10.00, Ю. Гасьцееў – 20.00, Э. Пітушка – 5.00, Згуртаваньне Беларусаў Заходняй Аўстраліі – 19.00

***Разам – 205.00 амэр. даляраў і 104.00 канад. даляраў.***

***Усім за падтрымку шчыра дзякуем.***